

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 43 (582)** **6 ЛІСТАПАДА 2002 г.**

## Полацкая канферэнцыя

23—24 кастрычніка 2002 года ў старажытным Полацку адбылася IV Міжнародная канферэнцыя "Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі", прысвечаная 1140-годдзю горада. У канферэнцыі прынялі ўдзел навукоўцы з Беларусі (археолагі і гісторыкі з Менска, Горадні і Полацка), Польшчы, Расіі, Італіі і Швецыі. Канферэнцыя адбывалася ў памяшканні музея-бібліятэкі Сімяона Полацкага.

У пачатку канферэнцыі прадстаўнікі полацкіх уладаў, а таксама ўдзельнікі і госці віталі і віншавалі з юбілеем Георгія Штыхава, знакамітага даследчыка Полацка і Полацкай зямлі, якому нядаўна споўнілася 75 год. Пасля пленарнага паседжання два дні плённа працавалі дзве секцыі: археалагічная і гістарычная, у якіх прынялі ўдзел больш за 40 навукоўцаў з розных краін. У некаторых дакладах прагучалі новыя звесткі аб выніках апошніх археалагічных даследванняў у Полацку, Друцку, Воршы і іншых гарадах Полацкай зямлі.

Таксама добра была прадстаўлена нумізматычная тэма, у тым ліку прагучалі паведамленні аб выніках вывучэння Казьянкаўскага скарбу X стагоддзя, які важыць больш за 20 кілаграмаў срэбра. Удзельнікі канферэнцыі атрымалі падрабязную інфармацыю пра Брылеўскі грашова-рэчавы комплекс канца IX стагоддзя, звязаны са з'яўленнем вікінгаў на Беларусі.

Сярод гістарычных дакладаў варта адзначыць інфармацыю пра мастацтва сярэднявечнага Полацка, дзейнасць езуітаў у Полацку і ўнікальную полацкую езуіцкую бібліятэку XVIII—XIX стст.

Раніцай 24 кастрычніка ўдзельнікі і госці канферэнцыі наведалі Спаса-Праабражэнскую царкву Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра XII стагоддзя. Экскурсію па царкве правёў вядомы беларускі рэстаўратар Уладзімір Ракіцкі. Пад яго кіраўніцтвам беларускія рэстаўратары раскрылі на сцяне келлі Еўфрасінні Полацкай унікальную фрэску з выявай святой у поўны рост з мадэллю храма ў руцэ. Гэта крыжова-купальны храм з двумя радамі кілепадобных какошнікаў. Такім чынам, на Беларусі стала вядомай выява храма, зробленая ў XII стагоддзі, што з'яўляецца сусветным адкрыццём.

Канферэнцыя праходзіла пераважна на беларускай мове, прычым англамоўныя тэксты таксама перакаладаліся па-беларуску. Некаторыя выступсўцы прамаўлялі па-польску ці па-руску, але іх разумелі без перакладу.

У канцы працы ўдзельнікі звярнуліся да ўладаў прапановай адкрыць кафедру археалогіі ў Полацкім універсітэце, абазначыць на мясцовасці месцы ўсіх знішчаных полацкіх храмаў і княжацкага хорама (палаца) XII стагоддзя, а таксама захаваць традыцыю правядзення Міжнародных гісторыка-археалагічных канферэнцый у самым старажытным горадзе Беларусі.

*Алег Трусаў.*



**На канферэнцыі ў Полацку выступае Старшыня ТБМ, кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў.**

## Беларускія пісьменнікі ў Полацку

Група беларускіх пісьменнікаў на чале з Вольгай Іпатавай удзельнічала ў шэрагу вечарын пад агульнай назвай "Свабоднае грамадства – свабодная літаратура", якія прайшлі ў гарадах Полацк і Наваполацк. У бібліятэках імя Скарыны і імя Маякоўскага, ва Універсітэце пісьменнікі Эрнест Ялугін, А. Рыбак, В. Якавенка, а таксама У. Кірылаў, Лера Сом і іншыя дзяліліся досведам творчай працы і змагання за свабодную літаратуру. Дарэчы, у бібліятэцы імя Маякоўскага ў Наваполацку разам з пісьменнікамі выступіў старшыня "Таварыства беларускай мовы" Алег Трусаў.

На сустрэчы распаўсюджваліся новая газета ТБМ "Новы Час".

*Наш кар.*

## *У Мгнску будзе вуліца Ігната Дамейкі*

Такое паведамленне атрымала Таварыства беларускаай мовы з Упраўлення кульруры Менгарвыканкама. Рашэнне было прынятае на падставе звароту сходу грамадскасці г. Менска, прысвячанага 200 – годдзю з дня народзінаў нашагу славутага суайчынніка. Пытанне пра ўвекавечанне памяці Ігната Дамейкі ў назве адной з сталічных вуліц уключана ў план работы камісіі на найменаванні і перайменаванні вуліц і плошчаў.

***Сакратарыят.***

## У Лідзе, магчыма, таксама будзе вуліца Ігната Дамейкі

**Старшыні гарадской арганізацыі ТБМ ім. Ф. Скарыны**
**Судніку С. В.**

На вашую заяву ад 07.05.2002 г. гарадскі выканаўчы камітэт паведамляе, што І. Дамейка нарадзіўся ў Карэліцкім раёне, некаторы час жыў у Лідскім раёне, атрымаў адукацыю ў Вільні. Асноўная ж частка яго жыцця і дзейнасці прайшла ў Чылі, дзе ён з'яўляецца нацыянальным героем.

**Пытанне аб прысваенні імя І. Дамейкі адной з вуліц горада і плошчы будзе разгледжаны пры фармаванні і забудове новых мікрараёнаў.** Разам з тым заслугоўвае ўвагі і будзе рэалізаваная вашая прапанова аб разгортванні юбілейнай экспазіцыі, прысвечанай І. Дамейку ў гістарычна-мастацкім музеі, і Дамейкаўскія чытанні ва ўстановах культуры горада.

**Старшыня гарвыканкаму** **М. М. Чарнышоў.**

## БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЕТУ – У КОЖНУЮ СЯМ'Ю

**Таварыства беларускай мовы звяртаецца да грамадзян краіны з прапановай актыўна падпісацца з новага, 2003 года на беларускамоўныя газеты і часопісы. Хай мілагучнае роднае слова прыйдзе ў кожны дом, у кожную сям'ю з цікавай і патрэбнай інфармацыяй.**

***Падпішыцеся на беларускае і***

- вы сцвердзіце сваю грамадзянскую пазіцыю,
- адчуеце сябе носьбітам нацыянальнай культуры,
- глыбей зразумееце духоўную сутнасць свайго народа і самога сябе,
- падтрымаеце сваё, роднае.

***Выбірайце, калі ласка, на свой густ:*** "Звязда", "ЛІМ", "Культура", "Бярозка", "Вясёлка", "Несцерка", "Лесавік", "Рэгіянальная газета", "Наша слова", "Раніца", "Голас Радзімы", "Наша Ніва", "Настаўніцкая газета", "Новы Час", "Вожык", "Маладосць", "Полымя", "Роднае слова", "Спадчына", "Крыніца", "Беларускі гістарычны часопіс", "Лідскі летапісец".

***Беларускае выданне – ваш беларускі суразмоўца! Выбірайце і падпісвайцеся!***

Беларуская мова-

ТБМ
наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

| | |
|---|---|
| 1. Ткачэнка Марыя | – 20 рас. руб. |
| 2. Пярова Маргарыта | – 20 рас. руб. |
| 3. Грыцкевіч Валянцін | – 20 рас. руб. |
| 4. Прахорчык Міхась | – 20 рас. руб. |
| 5. Рабцэвіч Генадзь | – 20 рас. руб. |
| 6. Шурко Стэфан | – 20 рас. руб. |
| 7. Крывы Яраслаў | – 20 рас. руб. |
| 8. Лана Медзіч | – 20 рас. руб. |
| 9. Кавалюк Аўгенія | – 20 рас. руб. |
| **Усе: Санкт – Пецярбург** | **- 180 рас. руб.** |
| 10. Рымша Алесь | – 4000 р. |
| 11. Атрахімовіч Вячаслаў | – 1000 р. |
| 12. Мудроў Вінцэсь | – 1000 р. |
| 13. Рымша Георг | – 1000 р. |
| 14. Мерцалава Н.Ф. | – 3000 р. |
| 15. Фарнэль Кастусь | – 1000 р. |
| 16. Мудроў Максім | – 1000 р. |
| 17. Кунцэвіч Уладзімер | – 1000 р. |
| 18. Мельнікаў Юры | – 1000 р. |
| 19. Жарнасек Ірына | – 1000 р. |
| 20. Касьцюк Юрась | – 1000 р. |
| **Усе: Наваполацк** | **- 16.000 руб.** |

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## Не – рэпрэсіўным законам!

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага кодэкса "Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт. 369)**

***Прозвішча, імя, імя па бацьку*** ______________________
***Год нараджэння*** ______________________
***Адрас*** ______________________
***Асабісты подпіс*** ______________________

***Заўвага:*** *Ваш подпіс можа стаць падставай для заканадаўчай ініцыятывы з мэтай адмены вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіраваць у рэдакцыю газеты.*



№ 43 (582) 6 ЛІСТАПАДА 2002 г. Наша слова

Язэп Стэпановіч

*Да гадавіны памяці Рамаша Лядаховіча-Таміліна*

# Беларуская тэхнічная тэрміналёгія

**Даклад на адмысловым паседжаньні Тэрміналягічнай камісіі ТБМ ад 10 кастрычніка 2002 г.**

Беларуская навукова-тэхнічная тэрміналёгія цесна зьвязана з разьвіцьцём тэхнічнага прагрэсу й нацыянальнай дзяржаўнасьці. Яе росквіт у сярэднявеччы прымеркаваны да часоў Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта тады ўзьніклі й надоўга трывала замацаваліся такія назовы як *буда, будоўля, гарэльня, гута, майстэрня, паперня, ткальня, цагельня* й г.д. Другі пэрыяд уздыму нацыянальнай навукова-тэхнічнай тэрмінатворчасьці й тэрмінаграфіі адносіцца да 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Вынікі яго адлюстраваны ў тэрміназборах Тэрміналягічнай камісіі Інстытута беларускай культуры.

Мы зьяўляемся ўдзельнікамі новага, трэцяга па ліку, пэрыяду разьвіцьця беларускай нацыянальнай навукова-тэхнічнай тэрміналёгіі ў цэлым і ўласна тэхнічнай у прыватнасьці. Узначаліў яе адраджэньне на пачатку 90-х вядомы навуковец і педагог, дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі (зараз Нацыянальнага тэхічнага ўнівэрсытэта) Рамаш Лядаховіч-Тамілін. Ён вельмі актыўна ўдзельнічаў у працы Тэрміналягічнай камісіі ТБМ імя Францішка Скарыны й першых дзьвюх міжнародных канфэрэнцый па праблемах беларускай навуковай тэрміналёгіі. Спадар Рамаш з зайздросным энтузіязмам збіраў нацыянальную навукова-тэхнічную лексіку назоўніцтва, як ён правільна, па-беларуску, яе называў, і верыў ва ўнікальную магчымасьць адраджэньня традыцыйнай, удасканаленьне й стварэньне сучаснай навукова-тэхнічнай тэрміналёгіі. Ён выразна бачыў чатыры важнейшыя праблемы на гэтым шляху:

1.Сыстэматызацыю назоўніцтва,
2. Яе беларускасьць,
3. Запазычаньне й
4. Правапіс іншамоўнай лексікі.

Рамаш Янавіч быў перакананы, што "беларускае навукова-тэхнічнае назоўніцтва, як кожны сістэм назоўніцтва, мусіць грунтавацца на навуковай, дастаткова шырокай, адпаведнай не толькі сучаснасьці, але магчыма перспектыўнай сістэматызацыі аб'ектаў гэтага назоўніцтва ў пэўнай галіне ведаў" (Зборнік матэрыялаў Першай нац. Канферэнцыі, 1995, с. 268). Найважнейшым аспэктам навуковасьці стварэньня сыстэмы назоваў зьяўляецца іерархія клясыфікацыйных прыкметаў, колькасьць іерархічных падзелаў. Стварэньнем жа сыстэмы паняцьцяў павінны займацца спэцыялісты адпаведнай галіны ведаў, а не лінгвісты, каб пазьбегнуць верагоднай падмены сыстэмы паняцьцяў сыстэмай назоваў. Але ў выпадку, калі працэс, як кажуць, пайшоў, пераўтваранай сыстэмай "паняцьце – назоў" маніпулюе мовазнавец. Ён надае тэрмінам (назовам) уласцівую нацыянальнай мове форму. Напрыклад, у тэхнічнай дзейнасьці ёсьць аб'ект – *твор* і дзеяч – *творац*, які робіць твор, ёсьць ягоная дзейнасьць – *тварэньне* й сфэра дзейнасьці–*творчасьць*. Адсюль: *вытворац вытварае вытворы* ў сфэры *вытворчасьці*. Гэтаксама: *вырабнік выраблае вырабы* ў сфэры *вырабніцтва, прадуцэнт прадукуе прадукты..* Але ў якой сфэры дзейнасьці – *прадуцэнстве, прадукоўніцтве*? Як назваць дзейнасьць вытворца, вырабніка, прадуцэнта – *вытвараньне, выраблeньне, прадукаваньне*? Такія аспэкты, - лічыў Р. Лядаховіч-Тамілін, - чыста лінгвістычнай прыроды й мусяць быць вырашаныя адпаведным спосабам.

Ва ўсіх нацыянальных тэрмінасыстэмах (беларуская – не выключэньне) у сфэры назоўніцтва маюць месца гістарычна абумоўленыя недахопы. Па-першае, гэта сумяшчэньне назоваў паасобных паняцьцяў, якія ня маюць патрэбнага зараз падзелу. У прыватнасьці, *латунь* і *бронза*, але: *меднанікелевыя сплавы*. Латунь як – медна-цынкавы сплаў, бронза –сплаў медзі перадусім з волавам, затым з цынкам ды іншымі мэталямі. Аднак у сучаснай практыцы ўжываецца паняцьце *медна-нікелевыя сплавы*. Згодна са старой клясыфікацыяй гэтыя сплавы адносіцца да лутуні альбо бронзы ў залежнасьці ад наяўнасьці ў ім цынку. Каб не дапусьціць недарэчнага сумяшчэньня, - указваў Рамаш Янавіч, - "сістэма назоўніцтва мусіць быць створана не паводле сістэм наяўнага слоўніцтва, але на сістэмах сучасных паняцьцяў з дакладна акрэсленымі азначэннямі паняццямі ды выразна вызначанаю іерархічнаю падпарадкаванасцю" ("Наша слова", № 24, 1994).

Сярод беларускіх тэрмінолягаў канца XX – пачатку XXI ст. Рамаш Лядаховіч-Тамілін вылучаўся найбольшай нацыянальна-тэрміналягічнай кансэрватыўнасьцяй, пасьлядоўнасьцяй адраджэньня традыцыйнага беларускага назоўніцтва. Нязвыклая архаічнасьць яго вуснай мовы часам выклікала элемэнты пагарды з боку сучасьнікаў. Зважаючы на першародную чысьціню мовы, безакцэнтнасьць маўленьня, ніхто ні мог нават падумаць, што Рамаш Янавіч у большай меры расейскага паходжаньня. Для беларускай навуковай тэрміналёгіі гэта быў хадовы клад. У выніковасьці пошуку ўласнабеларускіх назоваў яму не было роўных, гэтак як і ў адстойваньні мэтазгоднасьці іх ужываньня ў сучаснай навукова-тэхнічнай практыцы. Ім упершыню за многія стагодзьдзі адкрыты магутнейшы пласт нацыянальнай лексікі, датычны ня толькі тэхнічных галін ведаў. Варта толькі нагадаць такія архаізмы як *пойма* (паняцьце), *засоб* (рэсурсы), *заборцы* (інтэрвенты), *засплонь* (пакрыцьцё), *сызбор* (склад), *гвінтоўка* (разьба), *спаваньне* (зварка), *сузгоднасьць* (адзінства), *кампутар* (камп'ютэр), *допуст* (допуск), тое ж *назоўніцтва* (тэрміналогія) і інш.

Як бачыце, "адкапаныя" лексемы этымалягічна й сэмантычна больш адпаведныя ды мілагучныя, гістарычна абумоўленыя. Так вярнуўся беларускі тэрмін *кампутар*, які бытаваў у сярэднявечнай Літве (Беларусі). У Заходняй Эўропе гэты лацінізм набыў іншую фанетычную форму – *камп'ютэр*.

Бездакорнае веданьне сп. Тамілiным расейскай і польскай, у значнай ступені ангельскай ды нямецкай моваў дапамагала знайсьці "залатую сярэдзіну" – форму й сутнасьць беларускіх навуковых тэрмінаў і паняцьцяў. Будучы шчырэйшым прыхільнікам беларушчыны, ён зьдзейсьніў практычны зварот ад "саўнаркамаўкі" як "испорченного русского языка" да сапраўднай беларускай мовы. Пры гэтым грунтуючыся на навуковай аснове, з улікам найперш сэмантыкі слоў. Часта падкрэсьліваў такую важную асаблівасьць нашай мовы як монасэмічнасьць – адназначнасьць тэрмінаў. Напрыклад (паводле аўтара), расейскія *определить* і *установить* маюць у беларускай мове больш за дзесятак аналягаў з рознымі адценьнямі: *вызначыць, азначыць, акрэсьліць, прызначыць, укшталтаваць, уясьніць, усталяваць, зьісьціць, дэфініяваць* і інш. Ён ня толькі адзначаў гэты прыярытэт – монасэмію, - але й пашыраў яго. Так, напрыклад, ім прапанаваны падзел вынікаў прадукцыйнай дзейнасьці чалавека, абагулены тэрмінам прадукт:

1. Здабытак (рас. Результат добычи) – вынік вылучэньня пэўнага прадукту з прыроднага засобу (рэсурсу): нафта, вугаль, выпампаваная вада, руды, будаўнічыя матэрыялы (жвір, пясок, камень), нарыхтаваны лесаматэрыял, здабытыя прыродныя дыямэнты й інш;

2. Вытвор (рас. Изделие расходуемое) – вынік накіраванай зьмены стану ці сызбору (складу) аб'екта, прызначанага для спажываньня: бэнзін, чыгун, цэмэнт, пракат, тканіна, хлеб, мяса, цукар і г.д.;

3. Выраб (рас. изделие нерасходуемое) – вынік накіраванай зьмены формы абъекта, прызначанага для карыстаньня: дом, кампутар, трактар, гэбаль, друкарка, канапа, камізэлька й г.д.

Сэмантычныя перавагі беларускага назоўніцтва можна прайлюстраваць паводле стандартнага азначэньня *дэталь* (рас. деталь). Сьпярша деталь азначала "изготовление из одного куска материала" Але як ставіцца тады да літых дэталяў – зь якога кавалка матэрыялу яны зроблены? Таму мусілі ўдакладніць: "деталь – изделие, изготовленное из однородного по наименованию и марке материала". І што такое ўвогуле "матэрыял"? Згодна з вызначэньнем "материал – изделие, подаваемое на сборку не разделённым на детали". Далей аўтары расейскіх стандартаў ЕСКД вымушаны былі даваць тлумачэньні, што павінны адсутнічаць "сборочные операции", што "покрытия" асобным матэрыялам ня лічацца... "Калі ж дэфініцыю дэталь, - казаў Р. Лядаховіч-Тамілін на Першай нацыянальнай тэрміналягічнай канфэрэнцыі, - падаць па-беларуску, стане: "Дэталь – выраб, што ёсьць атрыманы з адналітага вытвору". Дадатковыя тлумачэньні не патрабуюцца" (Матэрыялы..., 1995, с. 272). Канкрэтнае й выразнае тлумачэньне.

Негатыўна ставіўся ён да такой моўнай зьявы як аманімія – гукавое супадзеньне дзьвюх ці некалькіх розных па значэньні моўных адзінак. Асабліва да міждысцыплінарнай аманіміі (напр. *дрэнаж* мае месца як у тэхніцы, так і ў глебазнаўстве, у фізіялёгіі; *індукцыя* – у фізіцы, у псіхалёгіі, у фітацыналёгіі; *каморка*, ячэйка – у вылічальнай тэхніцы, у біялёгіі, у сацыялёгіі; *мышка* – у кампутарнай тэхніцы й заалёгіі).

Асабліва рэўнасна Рамаш Янавіч ставіўся да тэрмінаў-інтэрнацыяналізмаў. Пазычаньні ў беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналёгіі складаюць да 70-80% ад усёй колькасьці тэрмінаў. Не суцяшала й тое, што ў іншых мовах такое ж іх дамінаваньне. Пераважная бальшыня пазычаньняў прыйшла з лаціны – мовы навукі. Меншая частка – зь нямецкай, францускай ды ангельскай моў. Цягам часу іншамоўная лексыка добра адаптавалася да новых фанетычных і лексыкаграфічных умоў і стала неад'емнасьцяй беларускай мовы. Да прыкладу: *аб'ект, абрыс, база, вага, вось, гармата, гвінт, дах, друк, канал, квадрат, лінія, літара, мэтад, норма, палац, прадукт, працэс, сыгнал, сыстэма, тон, торф, тэхніка, функцыя* й шмат іншых.

Чаго ня скажаш адносна "сьвежых" пазычаньняў, якія мусяць прайсьці "каранцінны" пэрыяд адаптацыі. Аднак трэба лічыцца й з дыктаваньнем міжнародных нормаў. Напрыклад, у Міжнароднай сыстэме фізычных адзінак СІ маецца адзінка сілы сьвятла – кандэля. Такі назоў сп. Рамаш прапанаваў прыняць у тэхніцы замест сьвяча.

Ён указваў: "стваруючы сучаснае беларускае навукова-тэхнічнае назоўніцтва, трэба імкнуцца да карэкцыі і разбудовы яго шляхам пазычання назоваў, якія паўсюдна прынятыя ў мовах прамыслова і навукова развітых краінаў" ("НС", № 24, 1994). Адсюль лягічна выглядае запазычаньне назову *кампутар*. Існуе пераклад яго, як электронна-вылічальная машына, што нельга лічыць рацыянальным. Па-першае, ва ўсім сьвеце гэты аб'ект вядомы як кампутар (па-ангельску: computer). Па-другое, ён – не машына, а "прыстрой". І ня толькі "вылічальная", бо такі ж прыстрой – калькулятар, прызначаны для выкананьня лягічных апэрацый. І не абавязкова "электронная", паколькі ёсьць лазэрныя схемы такіх прыстрояў.

Другі прыклад неабходнай карэкцыі. У традыцыйнай беларускай лексіцы йснуе назоў *допуст* і пазьнейшае ад яго расейскае *допуск*. Зараз, калі ўжываньне спадарожных яму назоваў *зазор* і *нацяг* пад сумнеўня ставяцца, узьнікае намер замест калькі *"допуск"* вярнуць тэрмін *"допуст"*. Між тым апошні ўсталяваўся ў нашай мове як характарыстыка пэўнага недагляду, памылкі ці кары: "Не нявестка, а допуст божы!" Але ва ўсіх эўрапейскіх мовах такую сэнсавую нагрузку мае слова *таляранцыя* (tolerance). Прышлае некалі ў беларускую мову *"таляранцыя"* азначае пэўную спагаду аднаго боку да другога (прыкладам, патрабаваньне канструктара да магчымасьцяў тэхнолага) і такім чынам больш дакладна адпавядае лягічнаму азначэньню паняцьця, чымсці *"допуст"*.

У выпадку калі іншамоўны назоў увахозіць у практыку разам з новым паняцьцем (сэнсам), ягоная адаптацыя ў нацыянальнай тэрмінасыстэме не сустракае істотных перашкодаў. Так назовы *адаптар, алгарытм, дыскета, інтэрфэйс, маркетынг, клірынг, працэсар, прынтар, сэртыфікацыя, файл, холдынг* і г.д. трывала замацаваліся ў беларускай ды іншых мовах. Але, зважаючы на дадзеную тэндэнцыю, Рамаш Янавіч выказваў пэўную перасьцярогу. У цэлым шэразе выпадкаў традыцыйнай ангельскай тэрміналёгіі маюцца для розных паняцьцяў тэрміны, якія пішуцца аднолькава. Так, у ангельскай мове тэрмін *standardization* азначае, як пэўную сфэру дзейнасьці, так і самую дзейнасьць. У працэсе запазычваньня ўзьнікае неабходнасьць адлюстраваць гэтую рознасьць, каб пазьбегнуць недахопу, што атрымаўся пры расейскім пазычаньні – *стандартизация*.У прыватнасьці, Р. Лядаховіч-Тамілін прапанаваў для сфэры дзейнасьці назоў *стандардызацыя*, для самой дзейнасьці – *стандардызаваньне*.

Ён указваў таксама й на недахопы ў правапісе іншамоўных пазычаньняў. Перадусім адзначалася неабгрунтаваная аднабаковая прывязанасьць беларускай тэрміналёгіі да расейскага правапісу. Лічыў такі падыход немэтазгодным і нават шкодным. Той жа тэрмін *стандард* ва ўсіх мовах Эўропы, акрамя расейскай і, вядома, нашай, пішацца праз канцавое *д*.

У расейскую тэрміналёгію гэты назоў трапіў з вуснай нямецкай мовы, дзе *д* вымаўляецца як *т*. Адсюль – *"стандарт", "стандартызацыя"*.

Аналягічна трансфармаваныя й пазычаньні *мэтар – метр, сэкунда – секунда, дакумант – документ* і інш. Няма лёгікі ў напісаньнях: *палімер*, але *поліэтылен; палітэхнікум*, але *політэхнічны*; *прынтар*, але *дэкордэр, дызайнер*.

У выніку аналізу шматлікіх рознамоўных пазычаньняў Рамаш Янавіч прыйшоў да высновы пра неабходнасьць выпрацоўкі адзінага падыходу да правапісу г. зв. інтэрнацыяналізмаў, якія павінны забясьпечыць найбольш дакладнае захаваньне назову ў мове – крыніцы зь неабходнай карэкцыяй на асаблівасьці беларускага маўленьня, на ступеню тоеснасьці й наяўнасьць фанетычных і пісьмовых аналёгіі. І адзначаў, што праблемы правапісу пазычаньняў у значнай ступені былі б нейстотнымі пры ўжываньні беларускай лацінкі.

Такім чынам, нават з гэтага кароткага прагляду бачны шырокі спэктар навукова-тэрміналягічных дасьледаваньняў Р. Лядаховіча-Таміліна. Ім закранутыя й дасьледаваны важнейшыя кірункі беларускага нацыянальнага назоўніцтва, указаны сучасныя праблемы тэрмінатворчасьці й тэрмінаграфіі й шляхі іх разьвязаньня. Глыбокія тэарэтычныя высновы зробленыя Рамашом Янавічам на падставе аналізу гістарычнай і прафэсійнай літаратуры, уласнага беларускамоўнага навукова-пэдагагічнага досьведу падчас працы ў БПА. Вынікам гэтай працы зьявілася ўкладаньне слоўнікаў "Ліцейніцтва" й па мэталёгіі, кваліметрыі й стандардызацыі. Першы надрукаваны высілкамі аўтара. Другі знаходзіцца ў форме рукапісу й на дыскеце. Наша задача – паспрыяць выданьню другой, капітальнай (у трох частках) працы. На маю думку, зьяўленьне ў сьвет новага слоўніка Р. Лядаховіча-Таміліна можа йстотна паспрыяць разьвязаньню шэрагу навукова-тэрміналягічных праблемаў беларускай мовы.

# Гашкевічаў мост паміж Беларуссю і Японіяй

Шаноўныя чытачы "Нашага слова"!

Хачу падзяліцца ўражаннямі ад падзеі, якая адбылася на Астравеччыне 10 кастрычніка. Мне пашанцавала ў гэты дзень суправаджаць рэжысёра Гарадзенскага тэлебачання Віктара Куца, які здымаў гэтую ўрачыстасць, таму і я хачу выказаць сваю думку пра гэтае свята, прысвечанае нашаму земляку, першаму консулу Расійскай Імперыі ў Японіі, пісьменніку, асветніку Іосіфу Гашкевічу.

У 11 гадзін у Астравец завіталі прадстаўнікі міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай Іосіфу Гашкевічу. Госці міжнароднай канферэнцыі у складзе якой былі вядомыя вучоныя, дзеячы літаратуры і мастацтва, навукоўцы, гістаразнаўцы з Беларусі; Літвы, Польшы і, менавіта, з Японіі, якія разам з кіраўнікамі раённай улады наведалі помнік Іосіфу Гашкевічу, дзе ўсклалі кветкі. Пасля гэтага дэлегацыя накіравалася ў мясцовы кінатэатр, дзе была адчынена выстава жывапісу лідскага мастака Р. Грушы, прысвечаная гэтай падзеі. "Радзіма Гашкевіча у творах мастака". Гэтую выставу жывапісу адчыніла загадчыца аддзелу культуры Астравецкага райвыканкама Данута Чарнышэвіч, якая расказала пра аўтара выставы з Ліды і пра яго творчыя поспехі. Ад імя райвыканкаму намеснік старшыні Ірына Шляхтун урачыла кветкі аўтару лі павіншавала яго з плённай працай у выяўленчым мастацтве. З Японскага боку выступіў Такада Касічы – грамадскі дзеяч, патомак у сёмым пакаленлі Такая Какі, які першым пачаў устанаўліваць грамадзянскую дыпламатыю паміж Японіяй і Расіяй, арганізатар і ўладальнік музея ў г. Хакадатэ, у якім устаноўлены бюст І. Гашкевіча (Токіё), які ад сябе асабіста і ад імя сваіх землякоў павіншаваў мастака Р. Грушу і пажадаў яму поспехаў у мастацтве. Ігар Захаранка, кандыдат геаграфічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, старшыня секцыі "Усходазнаўства" Беларускага геаграфічнага таварыства, павіншаваў Р. Грушу і запрасіў яго выканаць яшчэ адзін праект па ўшанаванні памяці геадэзіста і географа генерал-лейтэнанта І. І. Ходзькі.

Пасля адкрыцця выставы ўсе наведвальнікі завіталі ў залу райвыканкама, дзе распачаліся Гашкевічашскія чытанні. Адкрыў чытанні старшыня астравецкага райвыканкама. Адам Кавалько, які павіншаваў усіх удзельнікаў канферэнцыі і расказаў пра свой раён, пра яго поспехі і яго планы.



Памятны знак І. Гашкевічу ў в. Малі Астравецкага раёна. Агульны выгляд.



Удзельнікі 2-х Гашкевічаўскіх чытанняў перад бюстам Гашкевіча ў Астраўцы.

Выступоўцаў на канферэнцыі было каля 50-ці чалавек, з іх толькі шэсць прадстаўнікоў Японіі: Такада Касічы, Косіма Го (аташэ па культуры пасольства Японіі), Джун-Ічы Сама (прафесар Такійскага ўніверсітэта, кіраўнік Суполкі беларусістаў Японіі) і інш. З беларускага боку выступалі Андрэй Майсеёнак, Георгі Штыхаў, Эдвард Зайкоўскі, Алена Глачуўская (Польшча), С. Вітушка (Вільня) і інш. З дакладам аб адраджэнні сядзібы І. Гашкевіча выступіў лідскі мастак – скульптар Р. Груша, які прапанаваў удзельнікам канферэнцыі і, менавіта, японскаму боку, прафінансаваць праект адраджэння сядзібы Гашкевіча, каб гэта засталося добрым прыкладам для пакаленняў у адносінах вялікіх краін – Японіі і Беларусі. Таксама мастак прапанаваў для ўзмацнення адносін паміж краінамі арганізаваць выставу твораў і перадаць у якасці падарунка бюст І. Гашкевіча Японіі. Пасля заканчэння чытанняў у 16.30 адбылося адкрыццё памятнага знака І. Гашкевічу ў в. Малі, дзе апошнія 8 гадоў жыцця жыў І. Гашкевіч. Тут яшчэ раз здзівіў ўдзельнікаў каферэнцыі Р. Груша памятным знакам, які перадаў у якасці падарунка в. Малі. На адкрыцці аўтар таксама зачытаў верш, які прысвяціў І. Гашкевічу. Ірына Шляхтун павіншавала аўтара і запрасіла адчыніць памятны знак у гонар Гашкевіча Такада Касічы і старшыню райвыканкаму Адама Кавалько. Пад музыку і тэкст песні, якая была прысвечана І. Гашкевічу мясцовым кампазітарам, адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка.

З вялікай падзякай да Астраветчыны і аўтара Рычарда Грушы Такада Касічы прапанаваў стварыць яшчэ адзін сумесны праект у Японіі па ўшанаванні памяці Гашкевіча для больш цёплых сувязяў паміж краінамі.

І гэта відавочна, што сувязі паміж Беларуссю і Японіяй узмацняюцца, таму што на першых чытаннях прысутнічаў адзін прадстаўнік з японскага боку, а на другіх – шэсць.

Удзельнікі канферэнцыі пажадалі, каб на новых Гашкевічаўскіх чытаннях з японскага боку прысутнічала не менш за 30 чалавек. А ў завяршэнне гэтага сята Такада Касічы асобна павіншаваў нашага земляка Р. Грушу з выдатнай працай і запрасіў да сябе ў свой музей з выставай.

І гэта радуе, бо культурныя сувязі паміж краінамі ўзмацняюцца.

*Уладзімір Дрозд.*



Аўтар памятнага знака скульптар Рычард Груша і Такада Касічы ціснуць рукі ў знак сяброўства і далейшага супрацоўніцтва беларускага і японскага народаў.



Удзельнікі 2-х Гашкевічаўскіх чытанняў каля памятнага знака І. Гашкевічу ў в. Малі.

*Рэдактар Станіслаў Суднік*

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 11. 2002 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 2165.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.